# Весткі й Паведамленьні

*інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня “ПАГОНЯ”*

**Viestki j Paviedamlenni**

Сусьветнае сеціва: *e-krama.com, www.baza-belarus.org*
Электронны адрас: *viestki@mail.com*
✉ *VIESTKI, P. O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735*

**№ 12 (562)**
**Сьнежань 2012 г.**



## *Радасных Калядаў і шчасьлівага Новага 2013 году!*

*Выпадкова ці не, але старонка зь імёнамі аўтараў альманаха “Беларус” мяжуе са старонкаю з прозьвішчамі дабрадзеяў, якія ахвяравалі грошы на ягонае выданьне. Прыгадваецца, як айцец Надсан аднойчы пераканаў мяне, што беларускую справу трэба рабіць за беларускія грошы. Чужыя інтарэсы могуць супадаць зь беларускімі, але нярэдка яны і разыходзіцца. Якім бы спагадлівым ня быў замежны дабрадзей, фонд, іншая дзяржава, імі заўжды, у меншай ці большай ступені, кіраваць будуць прыватныя, карпаратыўныя або нацыянальныя інтарэсы.*

*Альманах “Беларус” ад пачатку, стаўся яшчэ адною справаю, якая робіцца прынцыпова за грошы заробленыя і ахвяраваныя беларусамі. Менавіта гэта дазваляе альманаху прытрымліваццa пэўных нязьменных і базавых прынцыпаў, якія нават у Беларусі паддаюцца сумніву, і то ня толькі адвечнымі ненавісьнікамі беларускасьці, але ўсё часьцей нават яе дэкляраванымі апалягетамі. У гэтым выпадку можна быць упэўненым, што літаратурны альманах беларускіх пісьменьнікаў замежжа будзе надалей публікаваць аўтараў, якія пішуць выключна па-беларуску. Болей за гэта, можна быць перакананым, што тэксты будуць працягваць друкавацца на тарашкевіцы – адзіным прымальным запісе беларускай мовы. Урэшце, ня варта сумнявацца, што, нягледзячы на зьмену лічбаў чарговых гадоў, верхняя частка вокладкі будзе заўжды ў белых і чырвоных колерах. У час, калі ў Беларусі пад іншымі колерамі, розныя выданьні будуцьісьці на кампрамісы ў справе правапісу і мовы, а пэўныя аўтары наогул запатрабуюць месца ў беларускай літаратуры, ствараючы тэксты на мове чужой... парадаксальна, як раз альманах “Беларус” будзе ізноў і ізноў нагадваць, што такое беларуская літаратура, а гэта ў нашых умовах, ужо ня так і мала.*

***Віталь ВОРАНАЎ***




Наведаўшы ў сеціве старонку з адрасам **e-krama.com**, жадаючыя могуць набыць усе шэсьць нумароў літаратурнага альманаху “Беларус” за 2007-2012 гады.

Кошты для жыхароў ЗША, у залежнасьці ад гадоў выданьня, наступныя: *“Беларус” 2007* - **$16,** *”Беларус” 2008* - **$16,** *“Беларус” 2009* - **$17,** *“Беларус” 2010* - **$17,** *“Беларус” 2011* - **$12,** *“Беларус” 2012* - **$14.**

Замовы і аплату можна таксама дасылаць поштаю на адрас рэдакцыі:

***BIELARUS***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***

Чэкі выпісвайце на імя **Marat Klakotski**.

Там жа можна зрабіць ахвяраваньне на выданьне наступнага нумару “Беларуса”. Усе дабрадзеі першымі атрымаюць асобнік альманаха адразу пасьля выхаду з друку.

З пытаньнямі зьвяртайцеся на электронны адрас: ***zamova@e-krama.com***

# Лістападаўскі сход Згуртаваньня “Пагоня”

У суботу, 10-га лістапада адбыўся чарговы лістападаўскі сход Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “Пагоня”. Напачатку сходу старшыня сп. Віталь Зайка азнаёміў прысутных з падзеямі ў Беларусі за апошні месяц. Ён у прыватнасьці спыніўся на парлямэнцкіх выбарах у палату прадстаўнікоў РБ, якія сталі чарговым зьвяном у даўгім ланцугу лукашэнкаўскіх “дурыбараў”, не зьяўляючыся, згодна з заявамі апазыцыі і па ацэнках незалежных экспэртаў, ані празрыстымі, ані роўнымі, ані справядлівымі. Зноў на памяць прыходзіць сталінскі афарызм пра тое, што важна ня хто і як галасуе, а хто і як падлічвае вынікі. Сп. Зайка спыніўся і на іншых падзеях, як перасьлед адзінага незалежнага беларускамоўнага інтэлектуальнага часапісу “Arche”, намаганьнях па аб'яднаньні апазыцыі, атрыманьне статусу палітычнага ўцекача некалькімі палітыкамі, у тым ліку былым кандыдатам у прэзыдэнты Андрэем Саньнікавам.

Затым сп. Зайка гаварыў пра 92-я ўгодкі Слуцкага Збройнага Чыну, першага ў найноўшай гісторыі ўзброенага выступу беларусаў супраць ворага – беларусаў Случчыны супраць бальшавіцкай акупацыі іхняе зямлі, які зрабіўся сымболем змаганьня наступных пакаленьняў беларусаў за незалежнасьць і свабоду. Сп. Зайка акрэсьліў міжнародную сытуацыю, якая існавала ў 1920-м годзе. Прамоўца спыніўся на асноўных падзеях Чыну – дзейнасьці нацыянальна сьведамых сілаў, у тым ліку моладзі Слуцкай гімназіі, скліканьне Рады Случчыны, заяве аб падтрымцы Беларускай Народнай Рэспублікі, стварэньні й узброеньні Слуцкай брыгады, што складалася зь некалькіх палкоў. Затым быў ахарактэрызаваная хада баявых дзеяньняў, цягам якога случакі больш як месяц стрымлівалі, і нават змушалі пускацца наўцёкі, непараўнальна больш лічэбныя бальшавіцкія войскі, што ня мелі недахопу ў зброі ды амуніцыі. Як вядома, паўстаньне-Збройны Чын скончылася пераходам рэшты сілаў случакоў у канцы сьнежня праз раку Лань на абшар, кантраляваны палякамі, дзе змагараў раззброілі і пераслалі ў лягеры для інтэрнаваных.

Шмат у чым падобная падзея, параза ірляндзкага вялікоднага паўстаньня 1916 году, стала часткаю ірляндзкага нацыянальнага міту, паэтызаваная ў вершах,




апавядах, фільмах і вядомая кожнаму вучню, кожнаму грамадзяніну Ірляндыі, кожнай асобе ірляндзкага паходжаньня ў сьвеце. Месца Слуцкага Збройнага Чыну – таксама ў народным сэрцы, і менавіта таму ворагі Беларусі – бальшавікі, савецкія й сёнешнія постсавецкія валадары імкнуліся зацерці ды апляваць памяць пра случчакоў, абыйсьці Слуцкі Збройны Чын маўчаньнем або выставіць яго, як “бунт купкі кулакоў”, “польскую інтрыгу супраць маладой дзяржавы працоўных і сялянаў” і г. д. Але спробы гэтыя беспасьпяховыя – беларусы шанавалі й будуць шанаваць гераічны чын сваіх папярэднікаў. Сп. Зайка распавёў пра традыцыю адзначэньня Дня Герояў – угодкаў Слуцкага Збройнага Чыну – на эміграцыі й на Бацькаўшчыне.

Прысутныя ўшанавалі памяць Слуцкіх Герояў хвілінай цішы, а пасьля прагучэла аб'ява пра тое, што напачатку сьнежня сьвяткаваньне Дня Герояў пройдзе ў Гайленд-Парку, Нью-Джэрзі.

Сябра ўправы Згуртаваньня “Пагоня” сп-чня Алена Дубавая выказала думку, што ўдзел у змаганьні за вольную Беларусь можа быць самым розным, у тым ліку праз маральную падтрымку вязьняў рэжыму Лукашэнкі. Алена паведаміла, што знайшла ў сеціве адрасы ў зьняволеньні арыштаваных дзеячоў апазыцыі і паслала паштоўку маладафронтаўцу Паўлу Сырамалотаву з кароткім паведамленьнем, што пра яго ведаюць, памятаюць і жадаюць хучэйшага выхаду на волю. І Павал атрымаў тую паштоўку з простымі, але так патрэбнымі за кратамі словамі падтрымкі. Калі Павал выйшаў з турмы, ён скантактаваўся з Аленай і шчыра падзякаваў за дапамогу і спагаду. Алена заклікала ўсіх карыстаць з гэткіх і падобных нагодаў для дапамогі тым, хто выступае супраць тыраніі ў Беларусі.

Затым сп-ня Валянціна Якімовіч прачулена прачытала верш Натальлі Арсеньневай пра Слуцкі Збройны Чын.

Сп-ня Якімовіч распавяла пра конкурс “Зорны Шанец” у Нью-Ёрку і ўдзел у ім таленавітай беларускай сьпявачкі Вольгі Казак, якая ўжо прайшла ў другі тур, і заклікала прысутных прыйсьці на выступ Вольгі й падтрымаць яе.

Затым адбыліся знаёмствы з гасьцямі сходу, прагучэлі абвесткі. Прысутныя мелі нагоду знаёміцца і калегавацца пры напоях і сьціплых пачастунках.

**Віталь ЗАЙКА**

# Язэп ВАРОНКА (1891-1952) - палітычны і грамадзкі дзеяч

Язэп Варонка нарадзіўся 4 красавіка 1891 году на Гарадзеншчыне, у Сакольскім павеце, што цяпер у складзе Польшчы. Я. Варонка вучыўся на юрыдычным факультэце Пецярбурскага ўнівэрсытэту, які ня скончыў. Ён супрацоўнічаў у пецярбурскіх газэтах і часапісах, працаваў сакратаром рэдакцыі газэты “Сталічныя Весткі”. У 1917 годзе Варонка быў абраны ў сябры ЦК Беларускай Сацыялістычнай Грамады, браў удзел у падрыхтоўцы Першага Ўсебеларускага Зьезду (Кангрэсу), быў старшынём ягонага выканкаму. Акрамя гэтага, ён узначальваў Петраградзкі камітэт Беларускага Таварыства Дапамогі Пацярпелым ад Вайны і прадстаўляў беларусаў у Дзяржаўным Камітэце па Справах Народнай Адукацыі ў Петраградзе. У якасьці камісара юстыцыі ды нутраных справаў Язэп Варонка ўвайшоў у 1917 годзе ў склад Вялікай Беларускай Рады, а пасьля, у лютым 1918 году, стаў старшынём і міністрам замежных справаў новастворанага Народнага сакратарыяту Беларускай Народнай Рэспублікі. Язэп Варонка быў адным з ініцыятараў абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі і такім чынам – адным з бацькоў беларускай незалежнасьці. У красавіку ўзначаліў таксама міністэрства нутраных справаў. З расколам Беларускай Сацыялістычнай Грамады

**Працяг на 3-й бачыне**




# Лявон Савёнак. “Творы”

*Савёнак, Лявон. Творы / Уклад. Ц. Чарнякевіча і Л. Юрэвіча. Мінск: Лімарыус, 2012. — 352 с. — (Галасы Айчыны).*

У сэрыі “Галасы Айчыны” менскага выдавецтва “Лімарыус” пабачыла сьвет новая кніга. Пад адной вокладкай сабраная літаратурная спадчына яшчэ аднаго аўтара, чый жыцьцёвы шлях скончыўся на эміграцыі – Лявона Савёнка (1897—1974).

Ён нарадзіўся 26 чэрвеня 1897 г. у в. Вялец (сёньня Глыбоцкі р-н), вучыўся ў Маладэчанскай настаўніцкай сэмінарыі, якую скончыў, калі ўстанова эвакуявалася ў Смаленск. Прыехаў у Менск у 1920 г., дзе ажаніўся з настаўніцай Апалёніяй Раткевіч. У 1920-х г.г. Савёнак працаваў у рэдакцыі газэты “Савецкая Беларусь”. Гэты час быў асабліва плённы на сатырычныя нарысы й фэльетоны. У 1929 г. выйшаў адзіны літаратурны зборнік Савёнка на радзіме “Чароўная іголка”, падпісаны псэўданімам Леанід Свэн. Ня дзіва, што “кароль фэльетонаў” быў звольнены з працы за беларускі нацыяналізм. А ў 1933 г. – арыштаваны на справе “Беларускага нацыянальнага цэнтру” ды высланы на шэсьць гадоў у Сібір, а пазьней у Комі АССР. Сям’я Савёнка перабралася ў Крычаў, куды ён сам змог вярнуцца толькі ў 1939 г. Падчас нямецкай акупацыі Лявон Савёнак працаваў у “Беларускай газэце”. Прыкладна ў гэты час ён напісаў сваю вядомую сатырычную аповесьць “Запіскі эмігранта (Дзёньнік Ів. Ів. Чужанінава)”, што дасьціпна адлюстроўвае жыцьцё шэраговага беларуса пад акупацыяй.

Улетку 1944 г. сям’я Савёнкаў выехала на эміграцыю. У паваеннай Нямеччыне былы журналіст настаўнічаў, быў дырэктарам Беларускай гімназіі ў Остэргофэне, стаў адным з ініцыятараў аднаўленьня Рады БНР (пазьней пакінуў Раду праз канфлікт зь М. Абрамчыкам). У 1948 г. увайшоў у кансысторыю аднаўленай БАПЦ. Менавіта Л. Савёнак быў адным з ініцыятараў заснаваньня газэты “Бацькаўшчына” ў Нямеччыне.

У 1950 г. Савёнак выехаў у ЗША. Пасяліўся ў Памоне (Нью-Джэрзі), дзе займаўся сельскай гаспадаркай. Уваходзіў у склад рэдкалегіі газэты “Беларус”. Памёр 21 лютага 1974 г.

Творчая дзейнасьць Лявона Савёнка прыпадае пераважна на міжваенны і ваенны час. На эміграцыі ён амаль не пісаў, за выключэньнем некалькіх тэкстаў канца 1940-х гадоў ды невялікіх успамінаў.

У 1998 г. намаганьнямі БІНіМ пабачыў сьвет, укладзены Лявонам Юрэвічам, зборнік літаратурнай спадчыны Савёнка-Крывічаніна “Беларусізацыя пад №...” Аднак гэтае выданьне наўрад ці было добра вядомае ў мэтраполіі. Новы менскі зборнік, укладзены сумесна Лявонам Юрэвічам і Ціханам Чарнякевічам, і безумоўна засноўваецца на папярэднім, аднак значна дапаўняе яго. Аснову яго склалі фэльетоны, нарысы, артыкулы й аповесьць, напісаныя ў 1920—1940-х г.г. Тут зьмешчаны шэраг тэкстаў, якія раней публікаваліся толькі на старонках пэрыёдыкаў (прыкладам, у газэце “Савецкая Беларусь” у канцы 1920-х г.г.). Выданьне грунтоўна пракамэнтаванае, дапоўненае ўспамінамі жонкі Савёнка Апалёніі зь цікавымі згадкі пра культурнае жыцьцё ў Менску ў 1920-х г.г., а таксама ўнікальнымі здымкамі зь сямейнага архіву.

Кніга пабачыла сьвет дзякуючы падтрымцы сям’і Кіпеляў (Зора Кіпель была дачкою Лявона Савёнка). Успаміны Вітаўта Кіпеля, прысвечаныя цесьцю, зьмешчаныя ў прадмове да выданьня.

Новая кніга сэрыі “Галасы Айчыны” – гэта самы поўны збор літаратурнай спадчыны Лявона Савёнка, чыё імя такім чынам вяртаецца ў літаратурную прастору мэтраполіі.

**Натальля ГАРДЗІЕНКА**

# Язэп ВАРОНКА

***Працяг з 2-й бачыны***



Варонка далучыўся да Беларускай партыі сацыялістаў-фэдэралістаў. У кастрычніку 1918 году ён увайшоў у якасьці міністра нутраных справаў у склад Рады Народных Міністраў БНР. Пасьля захопу Менску бальшавікамі Варонка перабраўся ў Коўню. І стаў міністрам беларусіх справаў ва ўрадзе Летувы. У гэты час ён займаўся арганізацыяй беларускіх нацыянальных і вайсковых сілаў на Горадзеншчыне, стварыў беларускае таварыства “Бацькаўшчына”. Варонка рэдагаваў часапісы “Варта” і “Часапісь”, газэту “Беларускі Народ”. З 1921 году Варонка быў старшынём Беларускага Чырвонага Крыжа, а з 1922 году – старшынём Беларускай грамады ў Коўне. У ковенскі пэрыяд Варонка напісаў брашуры “Беларускае пытаньне”, “Беларускі рух ад 1917 да 1920 году”.

У 1923 годзе Язэп Варонка выехаў у ЗША, у Чыкага, дзе тады было найбольш імігрантаў зь беларускіх земляў. Варонка ставіў задачу кансалідаваць дарэвалюцыйную эміграцыю і здабыць сродкі на актывізацыю Рады БНР. Аднак рэаліі ў Амэрыцы аказаліся складанейшымі, чым уяўлялася з-за акіяну. Першая хваля эміграцыі была нацыянальня ня вызначаная, хілілася да расейскай або да польскай грамады – згодна зь веравызнаньнем. Каб весьці асьветніцкую ды тлумачальную працу сярод беларускіх эмігрантаў, якія менаваліся “заподнарускія мужыкі”, Варонка заснаваў газэту “Беларуская Трыбуна”, а таксама вёў беларускамоўныя і расейскамоўныя праграмы на радыё. Ён узначаліў Беларуска-Амэрыканскі Нацыянальны Зьвяз у Чыкага.

Варонка быў таленавітым журналістам і жыва цікавіўся культурай, гісторыяй, традыцыямі й сучасным станам Беларусі, апэратыўна зьмяшчаючы матэрыялы на старонках сваёй газэты “Беларуская Трыбуна” і перадаючы іх праз радыё.

З прыбыцьцём у Амэрыку хвалі пасьляваеннай, сьведамай беларускай эміграцыі Язэп Варонка навязаў кантакт з паасобнымі яе прадстаўнікамі. Але ўзяць актыўны ўдзел у стварэньні новых беларускіх структураў і ў кансалідацыі старой і новай эміграцыі Язэп Варонка ўжо не пасьпеў, у 1952 годзе яго ня стала.

Здольны, энэргічны і шматгранны чалавек, Язэп Варонка быў акрамя палітыка, радыёкамэнтатара і выдаўца таксама паэтам, што пакінуў пэўную спадчыну, але, нажаль, на расейскай мове, ужываньне якой адлюстоўвала супярэчнасьці й пакручастыя шляхі беларускай справы й беларускай эміграцыі ў 20-м стагодзьдзі. Разам з тым Варонка быў ідэёвым беларускім патрыётам, чыя памяць, асабліва як аднаго з заснавальнікаў БНР, павінна быць належна ўшанаваная як у Амэрыцы, так і на Бацькаўшчыне.

**Віталь ЗАЙКА**

*Беларуска-Амэрыканскаму Згуртаваньню "Пагоня"*
*з нагоды 92-х угодкаў Слуцкага Збройнага Чыну мае шчырыя прывітаньні.*
***Зянон ПАЗЬНЯК***

# СЬЦЯГ І МЕЧ

Дарагія землякі, паважаныя фронтаўцы.

Сёньня зноў, як заўсёды, мы адзначаем угодкі Слуцкага Збройнага Чыну і шануем памяць слуцкіх змагароў. Мы шануем іх мужнасьць, славу і барацьбу за вольную незалежную Беларусь. Сёньня іхняе змаганьне ёсьць для нас ідэйным прыкладам, падмуркам і напамінкам, бо наша Бацькаўшчына, што апынулася пад акупацыяй антыбеларускага рэжыму, усьцяж у небясьпецы.

Случакі змагаліся пад Бел-Чырвона-Белым Сьцягам за беларускія ідэалы волі, свабоды, незалежнасьці, народнасьці і дэмакратыі. Гэта было народнае рушэньне і народная барацьба за ідэі прагалошаныя Беларускай Народнай Рэспублікай. У 1980-х гадах народныя ідэалы і Сьцяг Волі пераняў Беларускі Народны Фронт "Адраджэньне" і дасягнуў усталяваньня рэальнай дзяржаўнай незалежнасьці краіны.

Але ўлада, нажаль, засталася ў руках савецкай каляніяльнай адміністрацыі і былой камуністычнай намэнклятуры. Гэта яны ўпусьцілі ў Беларусь ворагаў нашай незалежнасьці і культуры, паспрыялі захопу ўлады антыбеларускім сілам і самыя ўключыліся ў антыбеларускую палітыку рэжыму.

Антынародны рэжым завёў краіну ў тупік, выклікаў гуманітарную катастрофу грамадзтва і, каб яшчэ трохі праіснаваць, гатовы па кавалках распрадаць і дзяржаву.

Але вядома, што ліквідаваць антыбеларускі рэжым і ўратаваць краіну можна толькі з тымі ідэаламі і пад тым Сьцягам, пад якім змагаліся і паміралі за Беларусь слуцкія вяяры.

Цяпер гэты Сьцяг падняты. Бачце і далучайцеся! Бачце і выбірайце!

І добра, што выбар адбываецца. Супраць ідэалаў вольнай, незалежнай, народнай Беларусі выступілі асноўны праваката фальшывых выбараў і пабоішча 2010 года А. Саньнікаў і камуніст С. Калякін, які ўвесь час за аднаўленьне СССР і злачыннай камуністычнай ўлады. Але няма ніякай падтрымкі ў іх акрамя пустазвонства. "Арганізацыя" Саньнікава – гэта клянавая група ў 5-6 асобаў, якія ў поўным складзе выехалі за мяжу ў спадзяваньні на ўтрыманьне за імітацыю апазыцыйнай палітыкі. Партыя камуністаў – гэта ўчарашні дзень. Людзі памятаюць, што натварыла антыбеларуская камуністычная банда забойцаў на нашай зямлі, і ні пад якім іншым назовам яны не схаваюцца. Яны не перамяніліся.

Тыя "прагматыкі", што забыліся пра барацьбу з камунізмам, што ручкаліся потым з камуністамі пад дэмакратычнай фразеалёгіяй, – рабілі інтэлектуальнае злачынства, якое ўжо дорага абышлося нашаму грамадзтву.

Але цяпер стала ўсё выразна відаць нават для тых, хто ня бачыў.

Памятайма пра нашых змагароў за вольную Бацькаўшчыну, бо Беларусь ужо ёсьць незалежная і будзе незалежная. Цяпер краіна не свабодная, але будзе свабодная.

Перамагаюць ня тыя, што гавораць пра свабоду і аднача сна абымаюцца з ворагамі свабоды, а тыя, што трымаюць у адной руцэ свабоды Сьцяг, а ў другой – меч.

Вучымся духу ў слуцкіх ваяроў. Не забывайма пра іхны патрыятычны чын. Яны не баяліся мільённай бальшавіцкай арды і ня думалі пра сьмерць, але толькі пра волю і прышласьць Айчыны. Гэта высокародна і годна павагі. Ім шанаваньне і добрая памяць.

*25 лістапада 2012 г.*

**Уплаты ў Згуртаваньне**
**Ñêëàäê³ é àõâÿðàâàíüí³:**

| | |
|---|---|
| В. Бобух | 50 |
| В. Вайніла | 50 |
| К. Горба | 50 |
| К. Кажэнаў | 50 |
| Т. Каўшовік | 50 |
| Д. Карпенка | 50 |
| Д. Краўчук | 50 |
| Г. Пятрова | 50 |
| І. Стаўская | 50 |
| Я. Трасько | 50 |
| І. Цікова | 50 |

**Усім шчыры дзякуй!**

**Уплаты ў аддзел шліце на адрас:**
*P. O. Box 572*
*New York, NY 10113*
**Чэкі выпісвайце на імя**
*Valentina Balashchenko.*

*Паважаны **Аляксей Петрусевіч,** калі ласка, паведаміце рэдакцыі ваш дакладны паштовы адрас.*

## Наступны сход

**Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня "ПАГОНЯ"**
адбудзецца **ў суботу 8-га сьнежня 2012 году.**

Месца правядзеньня сходу:

***Seafarers and International House***
***123 East 15th Street***
***New York, NY 10003.***

*Даезд цягнікамі падземкі **L, N, Q, R, W, 4, 5, 6** да станцыі падземкі **Union Square**.*

*Будынак знаходзіцца адзін блёк на ўсход ад Union Square па 15-й вуліцы на скрыжаваньні з Irving Place.*

***Заля на другім паверсе.***

Пачатак: **а 6:00-й** вечара.

-------------------

*Аб месцы і часе правядзеньня сходаў ды іншых імпрэзаў, ладжаных арганізацыяй, можна даведацца, наведаўшы ў інтэрнэце ўэбстаронку **www.baza-belarus.org***

**Ахвяравалі на выданьне бюлетэня *Весткі й Паведамленьні*:**

| | |
|---|---|
| В. Бобух | 30 |
| Т. Бэрд | 30 |
| В. Вайніла | 30 |
| К. Горба | 30 |
| К. Кажэнаў | 30 |
| Д. Карпенка | 30 |
| Д. Краўчук | 30 |
| І. Стаўская | 30 |
| Я. Трасько | 30 |
| І. Ціткова | 30 |

**Шчыры дзякуй!**

*Падпісацца на бюлетэнь могуць усе зацікаўленыя даслаўшы аплату гадавой падпіскі (**$30**) на адрас:*
***VIESTKI***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***
*Чэкі з адзнакаю **"Весткі"** выпісвайце на імя*
***Valentina Balashchenko**.*
*Падпіску таксама можна аформіць, наведаўшы сайт **www.e-krama.com***